ГРОДНА
№8 (583),
17 красавіка 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!



Велікодныя віншаванні біскупа Аляксандра Кашкевіча вернікам Гродзенскай дыяцэзіі.

на старонцы 2

## З днём нараджэння, “Слова Жыцця”!


Słowo Życia

Газета Гродзенскай дыяцэзіі адзначыла сваё 25-годдзе.

на старонцы 6

## За што трэба дзякаваць Богу?




Падзяка – гэта ўсвядомленае прыняцце таго, што нам дадзена.

на старонцы 7

# БОГ ПРЫСУТНЫ Ў НАШАЙ РЭЧАІСНАСЦІ




**Уваскрасенне Езуса Хрыста, гістарычнай фігуры, а таксама Бога, як верым мы, хрысціяне, адбылося больш за дзве тысячы гадоў таму. Разам са змёртвыхпаўстаннем успамінаем, што Езус цярпеў: фізічна, псіхічна, духоўна.**

на старонцы 3

# НЕ НЕНАВІДЗЕЦЬ – ГЭТА ЛАСКА




Манахіні збіраюць дапамогу пацярпелым ад ваенных дзеянняў украінцам

**З назарэтанкай з Житоміра паразмаўлялі пра сённяшнюю рэчаіснасць сясцёр ва Украіне. Пра сірэны, бутэрброды патрабуючым, людскую салідарнасць, пераасэнсаванне веры і прабачэнне. Асаблівым чынам затрымаліся на апошнім. “Прабачэнне павінна стаць нашым рашэннем, выбарам”, – сказала с. Францішка.**

на старонках 4–5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## *Дарагія Чытачы!*

*Чарговы раз у жыцці мы можам адсвяткаваць урачыстасць Уваскрасення Пана. І хоць штогадова адзначаем гэтыя святы, абставіны заўсёды розныя, заўсёды новыя. Мы жывём у смутныя часы і не ўпэўнены ў заўтрашнім дні, назіраючы за тым, што адбываецца з нашым братнім народам ва Украіне.*

*Перад абліччам гэтых падзей застаецца нешта пэўнае, непахіснае, тое, што не залежыць ад лёсу гісторыі – праўда пра ўваскрасенне Езуса Хрыста. Гэты факт з'яўляецца для ўсіх нас арыенцірам, мерай, па якой мы павінны ацэньваць сваю гісторыю.*

*Уваскрослы Хрыстос, вяртаючыся і перамагаючы, з'яўляецца адказам на кожнае пытанне, якое ўзнікае ў сэрцы чалавека.*

*Давайце дазволім сябе ахапіць Добрай Навіне, што Хрыстос уваскрос! Будзем Яго сведкамі ў месцах вучобы, працы і пражывання. Няхай Уваскрослы будзе нашай адзінай надзеяй і дазволіць жыццю перамагчы над смерцю, любові – над нянавісцю, прымірэнню – над падзелам.*



кс. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**17–24 красавіка**

***Велікодная актава.***

*Дні Велікоднай актавы, як і Нядзеля Уваскрасення, маюць ранг урачыстасці. Васьмідзённы перыяд разглядаецца як адзін дзень, як адна ўрачыстасць. Таму ў Велікоднай актаве не абавязковы пятнічны пост. Апошні дзень актавы – Белая нядзеля. Калісьці ў гэты дзень неафіты, ахрышчаныя падчас рымскай Пасхальнай вігіліі, апранутыя ў белыя шаты, падораныя ім хрысціянскай супольнасцю, ішлі працэсіяй да касцёла св. Панкрата, каб там прыняць удзел у Імшы. Св. Ян Павел ІІ устанавіў гэтую нядзелю святам Божай міласэрнасці. Прыхільніцай таго была св. Фаўстына Кавальская.*

**25 красавіка**

***Свята св. евангеліста Марка.***

*Св. Марк быў сваяком Барнабы. Суправаджаў св. Паўла ў яго першым падарожжы і накіраваўся за ім у Рым. Потым стаў вучнем апостала Пятра і выклаў яго навуку ў сваім Евангеллі. Яму прыпісваюць заснаванне Касцёла ў Александрыі. Найбольшая заслуга св. Марка ў тым, што ён пакінуў нам сціслае апісанне жыцця і вучэння Пана Езуса.*

**26 красавіка**

***Гадавіна ядзернага выбуху ў Чарнобылі.***

*Молімся за ахвяр гэтай трагедыі, што адбылася ў 1986 годзе. Асабліва ў наш неспакойны час будзем прасіць у добрага Бога адхіліць ад чалавецтва ўсе катастрофы і ядзерную вайну.*

**29 красавіка**

***Свята св. Кацярыны Сіенскай, панны і доктара Касцёла, заступніцы Еўропы.***

*Св. Кацярына Сіенская, хоць і жыла больш за шэсць стагоддзяў таму, аднак з'яўляецца для нас актуальнай постаццю. Даўно Еўропа і ўвесь свет не былі так моцна падзеленыя і разрозненыя, як сёння. Касцёл таксама перажывае вельмі цяжкія часы, на яго святасці ўзнікаюць драпіны. Мы з'яўляемся сведкамі духоўнага "аздараўлення" без прысутнасці Госпада. Просім міласэрнага Бога праз заступніцтва св. Кацярыны аб жаданым дары міру.*

# ВЕЛІКОДНЫЯ ВІНШАВАННІ БІСКУПА АЛЯКСАНДРА КАШКЕВІЧА ВЕРНІКАМ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

***"Я – уваскрасенне і жыццё. Хто верыць у Мяне, калі нават і памрэ, будзе жыць"*** *(Ян 11, 25–26).*



**Умілаваныя ў Хрысце Пану Браты і Сёстры! Дарагія Вернікі нашай дыяцэзіі!**

У гэтую велікодную раніцу звяртаюся да Вас з асаблівай сардэчнасцю, каб падзяліцца радасным пасланнем веры, якое гучыць так: "Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!".

Хоць у нашых сэрцах шмат непакою і іх раніць боль з прычыны пакут стольхіх людзей, якія вымушаны пакідаць свае дамы і краіны, ратуючы жыццё, хоць народы жывуць у няпэўнасці наконт заўтрашняга дня, парушаецца грамадскі парадак у многіх краінах, аднак большай і мацнейшай з'яўляецца надзея, якую мы ўскладаем на Бога, міласэрнага Айца, які "так палюбіў свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае" (параўн. Ян 3, 16).

Богу заўсёды важна, каб мы жылі ў згодзе і міры, а калі змагаліся, то змагаліся са сваімі грахамі і за сваю святасць.

Адзначаючы сёлетнія святы Уваскрасення Пана, будзем прасіць Таго, які стаў "Пераможцам смерці, пекла і шатана", каб пажадаў захаваць нас у міры, каб дапамог нам захаваць веру, Евангелле і Дэкалог і каб гэтыя каштоўнасці сталі фундаментам міру, на якім мы будзем будаваць сваю будучыню.

**Дарагія Дыяцэзіяне!**

Дзякую ўсім, хто ў гэтыя дні спяшаецца з дапамогай патрабуючым, запэўніваю ў сваёй малітве за тых, каго закранаюць хвароба і цярпенні. Каля пустой грабніцы Езуса прашу аб жывой веры для дзяцей, якія рыхтуюцца да прыняцця Першай святой Камуніі, і аб тым, каб маладыя людзі, якія будуць умацаваны сямю дарамі Святога Духа ў сакраманце хрысціянскай сталасці, былі сведкамі Уваскрослага Пана. Няхай усе сем'і будуць моцныя Богам, бо толькі тады яны будуць здольны перамагчы цяжкасці і перанесці нават найбольшыя жыццёвыя буры.

Перад намі святы жыцця і дабра, надзеі і любові, міру і салідарнасці, збаўлення і міласэрнасці. Жадаю Вам усім удзячнасці за дар пасхальных таямніц, бо яны з'яўляюцца задаткам нашага плённага жыцця сёння і ў вечнасці.

**На гэты час сустрэчы з Уваскрослым і з бліжнімі ад усяго сэрца Вас блаславаляю: у імя Айца і Сына, і Святога Духа.**

*Аляксандр Кашкевіч*
*Біскуп Гродзенскі*

# БОГ ПРЫСУТНЫ Ў НАШАЙ РЭЧАІСНАСЦІ

працяг са с. 1




**Аб цярпенні чалавека, аб перажыванні штодзённасці ў Вялікім посце і аб атрыманні радасці ад уваскрасення Езуса мы пагаварылі з а. Аркадзем Куляхам OCD, пробашчам гудагайскай парафіі Наведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі, у мінулым духоўным айцом Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску і правінцыяльным дэлегатам айцоў кармэлітаў босых у Беларусі.**

*Размаўляла Кацярына Паўлоўская*

***– Магчыма, праз Вялікі пост варта змяніць сваё стаўленне і зрабіць такія элементы нашага жыцця, як праца і адносіны з людзьмі, не перашкодамі, а ўбачыць у іх нейкую Божую прысутнасць?***

– Як мне падаецца, чалавек ніколі не жыве адзін, у адарванасці ад свету, ад іншых людзей. І калі мы перажываем сваю веру, то таксама робім гэта з іншымі людзьмі. Часам можа быць так, што менавіта гэтае свята будзе таксама перажываннем сустрэчы з Хрыстом у другім чалавеку. Можа, у тым чалавеку, які яшчэ не распазнаў Бога.

Сапраўды, умовы, у якіх мы жывём, могуць нават паспрыяць таму, каб мы больш свядома асэнсавалі сваю веру, каб гэта не быў толькі нейкі рытуал, нейкі абрад, які б не грунтаваўся на рэлігійнай рэчаіснасці, на містычнай рэчаіснасці сустрэчы з самім Богам.

Ці то Вялікі пост, ці то святы, святкаванне нядзелі, напрыклад – у розных умовах хрысціянін, католік сустракаецца з выклікам перажывання веры і дзялення гэтай верай, бо ён пакліканы ёю дзяліцца. Трэба сказаць, што, напэўна, няма такіх абставін, якія б цалкам перашкодзілі ў перажыванні рэлігійнай рэчаіснасці. Якія б яны ні былі, не будуць перашкаджаць поўнасцю, а могуць мабілізаваць чалавека да пошуку нейкага спосабу перажывання сваёй веры – больш свядомага спосабу.

Адна жанчына, калі я заахвочваў яе да малітвы дома падчас рэкалекцый, распавядала пра тое, што не можа маліцца ў хаце. Калі пачынае малітву, прыходзіць муж і ўключае тэлевізар, прычым мацней, чым звычайна. Што я ёй параіў? Мабілізавацца, каб знайсці іншыя спосабы малітвы: пайсці на прагулку і там памаліцца. Але гэта таксама патрабуе нейкага намагання з боку чалавека.

***– Як цярпенне, якое сустракае ў жыцці чалавек – фізічнае, маральнае, псіхічнае, – ператварыць з перашкоды для веры ў Бога ў дапамогу ў перажыванні веры?***

– Першае, што трэба сказаць, – цярпенне, ды наогул пакуты, звязаны з чалавечым жыццём, і калі ўзяць звычайны вопыт чалавека, напэўна, няма такіх людзей, якія б так ці інакш не пакутавалі: ці то фізічна, ці то псіхічна, ці то маральна-духоўна. Нават у Святым Пісанні ёсць шмат гісторый, дзе прысутнічае рознае цярпенне: і смерць, і смерць дзіцяці, калі Пан Езус уваскрашаў адзінага сына камусьці, і небяспека смерці, некаторых высмейвалі, некаторыя перажывалі дакоры сумлення...

Розныя пакуты – неадʼемная частка жыцця. Гэта не значыць, што яны зʼяўляюцца чымсьці, з чым чалавек павінен згаджацца. Чалавек не пакліканы да таго, каб з радасцю прымаць цярпенні. Пакуты, такія як хвароба альбо ўсялякае няшчасце, якое выклікае цярпенне, смерць блізкай асобы, нейкая страта, нават звычайнай маёмасці, – гэта зло, і пра гэта трэба казаць.

Адносна цярпення можна мець дзве паставы. Адна пастава – гэта, напэўна, бунт. Яна зразумелая і натуральная, але на ёй чалавек не можа затрымацца. І, безумоўна, у выпадку веруючай асобы было б няправільным затрымлівацца на бунце. Адзінае, што чалавек можа зрабіць у выпадку цярпення – перш за ўсё, усвядоміць, што яно вельмі часта зʼяўляецца таямніцай. Асабліва калі людзі задаюць пытанне: “Чаму менавіта я?” – там заўсёды будзе таямніца.

Калі чалавек веруючы, то, канешне, ён будзе на сваё пакуты глядзець праз дапамогу, праз ласку Пана Бога. Такім класічным прыкладам пакут зʼяўляецца Ёў са Старога Запавету. Ян Павел II у адгартацыі на тэму чалавечых пакут звяртаецца менавіта да Ёва, які да канца не зразумеў сэнсу цярпення, але адказаў Богу на пытанне пра любоў, што любіць Яго абсалютна.

Мне асабіста спадабалася, як аднойчы папа Францішак казаў пра тое, што Хрыстос прысутны асабліва там, дзе чалавек пакутуе. Святы Айцец звяртае ўвагу на ролю малітвы. Пра што таксама казаў папа Бенедыкт XVI на пачатку свайго пантыфікату: той, хто верыць, ніколі не застаецца адзін. Няма такіх пакут, у якіх не было б прысутнасці Пана Бога. Калі я веруючы чалавек, то першае, чаго чакаю ў веры, – вечнае жыццё. У такім сэнсе ўсялякае цярпенне разумею як дарогу да яго. Падкрэсліваю яшчэ раз: гэта не значыць, што я павінен прагнуць цярпення і імкнуцца да яго. Тым не менш, дзякуючы веры магу гэтае цярпенне лягчэй пераносіць.

***– Ад людзей веруючых можна пачуць, што Бог “дае” вайну, каб людзі навярнуліся. Здаецца, што ў цяперашніх акалічнасцях вайны важна казаць, што Бог не спасылае цярпенне, не спасылае вайну.***

– Чалавек не можа сказаць: “Бог даў цярпенне – то трэба цярпець”. Бог не спасылае цярпенне і не прагне, каб чалавек пакутаваў. Іншая справа, калі асоба перажывае цярпенне і яднае яго з пакутамі Езуса. Такім чынам яно набывае збаўчы характар – удзельнічае ў збаўчай місіі Хрыста. Бог не стварыў чалавека для вайны, для нянавісці, але стварыў яго і з любові, і для любові.

Сучасныя падзеі, вялікая несправядлівасць, усялякія войны... З пэўнасцю можна сказаць, што яны не ад Бога і іх нельга нават разглядаць як Божае пакаранне, але як вынік людскога граху, вынік адыходу чалавека ад Бога, можа, нават практычнага атэізму многіх веруючых.

Тут вельмі вялікае значэнне маюць адносіны чалавека да пакут. І не толькі да сваіх. Трэба іх заўважыць і быць саўдзельнікам цярпення іншых людзей. Для мяне гэта вельмі важна. Гэта момант, калі мы, хрысціяне, бяром прыклад з Езуса Хрыста. Ён настолькі зʼяднаўся з чалавечай натурай, што сам прыняў на сябе людскія пакуты, прычым сапраўды жудасныя. Калі наследуем Збаўцы, то стараемся ўдзельнічаць у цярпенні іншых людзей.

Тут можна ўзгадаць хоць бы Маці Тэрэзу з Калькуты, якая з найбольш пакінутымі, беднымі перажывала тое ж цярпенне, што і яны. Як яшчэ перажываць? Прагнуць праўды, справядлівасці, прагнуць, каб другі чалавек быў шчаслівы, каб у яго жыцці быў Пан Бог – гэта вельмі важна.

У кантэксце цярпення апошняе, што хацеў сказаць, што і ў перажыванні Вялікага посту, і таксама гэтых трох дзён смерці, пахавання і ўваскрасення Езуса Хрыста ёсць надзея вечнага жыцця. І гэта найважнейшае. Якія б пакуты не былі, вельмі важна для нас, хрысціян, каб яны не адлучылі нас ад любові Усемагутнага, а наадварот, дапамаглі яшчэ больш зʼяднацца з Богам, які прысутны асабліва там, дзе чалавек пакутуе.

***– Уваскрасенне Езуса – гэта радасць. Чалавек прыходзіць у касцёл не проста пастаяць, паўдзельнічаць у працэсіі, а атрымаць радасць ад Хрыста. Як гэта зрабіць?***

– Радасць зʼяўляецца ўнутраным станам чалавека, які верыць у Бога. На мой погляд, чым больш глыбокай будзе вера, тым больш стане радасці.

У прынцыпе, хрысціянская радасць пачынаецца з таго, што я іду ў касцёл: ці то на рэзурэкцыйную св. Імшу, ці то на нядзельную Эўхарыстыю, а асабліва на Пасхальную вігілію, дзе ўсе збіраюцца каля вогнішча, дзе асвячаецца гэты агонь. Пасля заносіцца святло ў касцёл як радасць ад таго, што Хрыстос сярод нас.

У сцэне з Евангелля, калі ўсе бягуць да магілы, яны ў дарозе перакананы ў тым, што там будзе сум. Калі ж прыходзяць і сустракаюць Езуса Хрыста, які кажа такія актуальныя сёння словы “Супакой вам”, там прысутнічае радасць. Радасць ад таго, што Хрыстос, які быў мёртвы – ажыў. Ён сапраўды жыве і сапраўды прысутны сярод нас, хоць мы Яго не бачым.

Канешне, каб гэтую радасць у поўні перажываць, трэба – вяртаючыся да пачатку – жыць верай пастаянна, інакш радасці не будзе. Хрыстос ёсць у маім жыцці, я зʼяднаны з Ім, я да гэтага пакліканы – заўсёды быць з Ім. Там, дзе ёсць Бог, там ёсць надзея. У Нядзелю Уваскрасення гучаць словы: “Супакой вам” – гэта таксама сведчанне таго, што Бог прысутны тут, у нашай рэчаіснасці. А калі Ён прысутны, то Ён таксама дае надзею.

Пазнаць праўдзівага Бога – гэта таксама значыць мець надзею. На тое, што Ён прысутны ва ўсім. На тое, што я буду жыць інакш, што атрымаю новае жыццё. І не толькі ў перспектыве вечнасці, але і ў перспектыве сённяшняга дня. Што “заўтра” будзе поўнае радасці.

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Апублікаваны дакумент “Біблейскія крыніцы аб сінадальнасці”

Выданне, якое распрацавала міжнародная біблейская група Камісіі па духоўнасці пры Генеральным Сакратарыяце Сінода, прапануе lectio divina і аналіз тэкстаў Старога і Новага Запавету, што павінна служыць больш глыбокаму разуменню феномена сінадальнасці. Тэксты маюць на мэце дапамагчы мясцовым Касцёлам у бягучых сінадальных кансультацыях і наступных этапах сінадальнага працэсу.

Акрамя lectio divina і аналізу тэкстаў Святога Пісання, дакумент утрымлівае фрагменты дагматычнай канстытуцыі Dei Verbum Паўла VI і адгартацыі Verbum Domini Бенедыкта XVI, прысвечаныя сінадальнасці ў Касцёле.

### У ватыканскім дзіцячым шпіталі адкрыўся паліятыўны цэнтр

У ватыканскай бальніцы Bambino Gesù адкрылася аддзяленне паліятыўнай тэрапіі для дзяцей. Ва ўрачыстым адкрыцці цэнтра прынялі ўдзел кардынал Пʼетра Паралін, Дзяржаўны сакратар Яго Святасці Папы, кіраўнік вобласці Лацыё Нікола Дзынгарэці, мэр Фьюмічына Эстэрына Манціна, дырэктар клінікі Bambino Gesù Марыэла Энак і ахвярадаўцы, якія ўнеслі асноўны ўклад у стварэнне новай структуры.

Дзіцячае аддзяленне паліятыўнай тэрапіі не прызначана для пастаяннага прабывання. Гэта часовае выйсце: дапамога сямʼі ў доглядзе за дзіцём і маніторынг яго стану. Асноўная мэта такога суправаджэння – забеспячэнне лепшай якасці жыцця на тэрмінальнай стадыі хваробы.

### Кардынал Тарксан будзе кіраваць папскімі акадэміямі

“Святы Айцец прызначыў 73-гадовага кардынала Пітэра Кодва Апіа Тарксана канцлерам Папскай акадэміі навук і Папскай акадэміі сацыяльных навук”, – паведаміла Зала Друку Святога Пасаду.

Тарксан зʼяўляецца першым кардыналам з Ганы. Ён удзельнічаў у канклавах 2005 і 2013 гадоў, на якіх абралі адпаведна Бенедыкта XVI і Францішка.

Папская акадэмія навук, заснаваная ў 1847 годзе, займаецца даследаваннем матэматычных, фізічных і прыродазнаўчых навук і звязаных з імі тэалагічных пытанняў. Папская акадэмія сацыяльных навук была выдзелена з яе структуры ў 1994 годзе Янам Паўлам II. Яе мэтай зʼяўляецца садзейнічанне даследаванням і прагрэсу ў сацыяльных, эканамічных і юрыдычных навуках у кантэксце вучэння Касцёла.

### Малітоўныя інтэнцыі на красавік

**паўсюдная**

Молімся, каб урады і мясцовыя супольнасці падтрымлівалі ўдзел медыцынскіх работнікаў у доглядзе за хворымі і пажылымі людзьмі, асабліва ў самых бедных краінах.

**дыяцэзіяльная**

Молімся аб жывой веры для дзяцей і моладзі, якія рыхтуюцца да прыняцця святых сакрамантаў, а таксама для іх сямʼяў.

# ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ Ў ГРОДЗЕНСКАЙ КАТЭДРЫ




Пальмовая нядзеля ў гродзенскай катэдры з удзелам пастыра дыяцэзіі

**10 красавіка, у нядзелю Мукі Пана, якая распачынае Вялікі тыдзень, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч узначаліў св. Імшу ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

У гэты дзень у святыні чыталася апісанне Мукі Пана, пасля чаго іерарх звярнуўся да вернікаў з гаміліяй.

Біскуп адзначыў важнасць Пальмовай нядзелі, якая нагадвае пра ўезд Езуса ў Іерусалім, каб там памерці ды ўваскрэснуць, і распачынае святкаванне пасхальнай таямніцы. Іерарх заклікаў перажыць Вялікі тыдзень, які распачынаецца ў Пальмовую нядзелю, годным і належным чынам.

Таксама біскуп благаславіў пальмовыя галінкі, якія вернікі па традыцыі прынеслі ў святыню на памяць пра ўваход Езуса ў Іерусалім.

Звычай благаслаўлення пальмовых і вербных галінак з'явіўся ва ўсім Касцёле ў XI стагоддзі. Пасля вяртання дадому, некаторыя вернікі змяшчаюць паблаславёныя галінкі за крыжы і абразы. Раней іх таксама ўтыкалі на полі, каб Бог аберагаў пасевы ад граду, засухі і празмерных дажджоў.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ПАРТУГАЛІЯ.** Сусветным дням моладзі ў Лісабоне па традыцыі будуць папярэднічаць Дні моладзі ў дыяцэзіях. Як паінфармаваў арганізацыйны камітэт форуму, яны пройдуць 26–31 ліпеня 2023 года. Пілігрымы змогуць лепш пазнаёміцца з мясцовым Касцёлам і правесці час з жыхарамі Партугаліі напярэдадні галоўных падзей Сусветных дзён моладзі ў 17-ці дыяцэзіях гэтай краіны. Пасля самастойнага выбару дыяцэзіі і папярэдняй рэгістрацыі пілігрымы будуць запрошаны прыняць удзел у духоўнай і культурнай праграме, падрыхтаванай кожнай дыяцэзіяй.

**ІЕРУСАЛІМ.** Дарадца па СМІ каталіцкага епіскапату Святой Зямлі Вадзі Абунасар выказаў занепакоенасць значным змяншэннем колькасці хрысціян у Іерусаліме. "Сітуацыя выклікае трывогу, бо мы гаворым, што Іерусалім з'яўляецца месцам трох рэлігій: ісламу, хрысціянства і юдаізму, а прысутнасць адной з іх амаль знікае", – паведаміў прадстаўнік епіскапату турэцкаму інфармацыйнаму агенцтву Anadolu. Абунасар адзначыў, што ў 1922 годзе хрысціяне складалі каля 25% насельніцтва горада, цяпер іх доля – 1%. Гэта выклікае заклапочанасць нават у нехрысціян і ўсіх, хто падтрымлівае плюралізм.

**ЗША.** Група з каля 70-ці кардыналаў, біскупаў і тэолагаў сабралася ў Каталіцкім універсітэце Лаёлы ў Чыкага, каб "падтрымаць рэформы Францішка ў духу II Ватыканскага сабору". Тры асноўныя даклады тычыліся палярызацыі поглядаў у амерыканскім епіскапаце, "акадэмічнай атмасферы" ў амерыканскіх семінарыях і рэакцыі ў дыяцэзіях на кансультацыі, звязаныя з Сінодам Біскупаў 2021–2023 гадоў. Дыскусіі праходзілі згодна з "Правілам Чатэм-Хаўса" (Chatham House Rule). У адпаведнасці з ім, дэлегаты і госці семінара не маюць права выдаваць аўтарства тых ці іншых меркаванняў за яго межамі, што павінна садзейнічаць шчырасці меркаванняў.

**ПОЛЬШЧА.** Пасля амаль 100-гадовага перапынку ў нядзелю прагучаў звон "Урбан" з вежы Вавельскай катэдры. У апошнія тыдні ён быў адрамантаваны і будзе выкарыстоўвацца для літургіі. Кожную нядзелю звон будзе склікаць вернікаў на ўрачыстую Суму. Па словах прадстаўнікоў катэдры на Вавелі, адрамантаваны і вернуты на вежу "Урбан" прыводзіцца ў рух двума лінейнымі рухавікамі. Дыяметр звана 167 см, вышыня без цяскоў 145 см, вага 2 628 кг. Вернуты ў літургічны ўжытак, як і стагоддзі таму, ён будзе заклікаць да ўдзелу ў Суме, цэлебраванай у катэдры. Звон можна будзе пачуць кожную нядзелю ў 9:50 і падчас самых вялікіх урачыстасцей.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# НЕ НЕНАВІДЗЕЦЬ – ГЭТА ЛАСКА

працяг са с. 1

*Размаўляў Арцём Ткачук*

***– Чым займаюцца сёстры назарэтанкі ва Украіне? Як вайна змяніла Вашу дзейнасць?***

– На дадзены момант у краіне 5 дамоў. Да вайны было 6 – быў яшчэ дом у Херсоне. На жаль, сёстры вымушаны былі выехаць адтуль. Ёсць 2 дамы ў Кіеве, але там цяпер няма шмат магчымасці перамяшчацца па горадзе, таму сёстры жывуць пры парафіі ў касцёльных падвалах. Іх служэнне – гэта быць з людзьмі, маліцца з імі, займацца дзецьмі, дбаць пра людзей, якія там ёсць. Калі сталіцу абстрэльвалі і было вельмі небяспечна, праз дамы сясцёр праходзіла шмат народу.

У Жытоміры ў нас 3 сястры, аднак сам дом вельмі маленькі, таму прыняць уцекачоў няма фізічнай магчымасці. Да вайны адна з сясцёр працавала ў святліцы, але 90% дзяцей выехалі. Мая праца ў біскупскім судзе пасля 24-га лютага таксама спынілася.

Першы час было незразумела, што рабіць і куды бегчы. Спачатку мы рабілі бутэрброды для ваенных, хлопцам збіралі аптэчкі, трэба было дапамагаць тэрабароне. Да таго ж, акрамя ваенных, якім ёсць каму дапамагаць, заставалася вельмі шмат іншых патрэб: дзіцячыя дамы, дамы састарэлых, інтэрнаты для людзей з псіханеўралагічнымі расстройствамі. Яны ўвогуле засталіся адныя.

Таму наша дзейнасць сёння – гэта служэнне пры "Карытас". Я стала адказнай за лагістыку. Так склалася, што ў чацвер пачалася вайна, а ўжо ў панядзелак нам павадаміл, што з Польшчы да нас едзе TIR з прадуктамі. Трэба было знайсці бусы, паехаць на мяжу, усё гэта спакаваць, прывезці сюды, знайсці склад. Таксама шмат людзей проста прыходзілі і казалі, што хочуць штосьці рабіць, нешта дапамагаць – так сабралася група валанцёраў вакол нашага "Карытас". Кожны хацеў чымсьці займацца, бо бяздзейнічаць у такой сітуацыі вельмі складана. Такая дзейнасць дапамагае: у агромністасці дрэннага чалавек можа здзейсніць штосьці добрае.

Першыя два тыдні сёстры болей займаліся Жытомірам, бо з Кіева яшчэ не было ўцекачоў. Мы пакавалі прадуктовыя наборы, іх трэба было развозіць. Пазней пачалі бамбіць у Кіеўскай вобласці, і адтуль пайшлі ўцекачы, вывозілі розныя пансіянаты. Памятаю мужчын з псіханеўралагічнага інтэрната ў Барадзянцы – частка не даехала, і іх хавалі проста на тэрыторыі гэтага пансіяната. Яны прыехалі ў тапачках, валанцёры ім прынеслі каробкі з абуткам – і мужчыны проста на хаду пераабуваліся…

Калі выюць сірэны, спім у калідоры. Бываюць ціхія ночы, тады спім у сваіх ложках – і гэта клас. Аднойчы да нас прыехаў праваслаўны святар з-пад Кіева і кажа: "О, у вас ёсць вада. У нас адключылі на трэці дзень вайны". Таму заўсёды разумееш, што ёсць людзі, якім складаней, і мы можам яшчэ штосьці рабіць добрага.

Вось так сёння выглядае наша назарэтанскае жыццё.



***С. Францішка Тумановіч CSFN – назарэтанка.*** *Суддзя біскупскага суда Кіева-Жытомірскай дыяцэзіі. Доктар кананічнага права. Настаяцельніца дома сясцёр назарэтанак у Жытоміры. 26 гадоў у Кангрэгацыі. Пастулат, навіцыят і некалькі гадоў пасля першых манаскіх абяцанняў служыла ў Навагрудку і Гродне, затым вярнулася ва Украіну.*

***– Як Вы ва ўсёй гэтай жудасці знаходзіце Бога? Як Яго адчуваеце, Яго дзеянне?***

– Гэта складанае пытанне. Кожны дзень па-рознаму. Так склалася, што пасля аб'яўлення папам Дня малітвы і посту за Украіну, з 16-га лютага мы пачалі штодзённа з сем'ямі збірацца на Ружанец праз ZOOM. Таму з пачаткам вайны ў нас не было пытанняў наконт штодзённай малітвы. Гэты супольны Ружанец даваў сілы, і хацелася сказаць, што гэта ўсё, што я магу: Божа, дапамажы, ратуй! Як у суплікацыі – "ад пажару, голаду, вайны і заразы – барані нас, Божа!". Кожнае слова спяваецца цяпер інакш. Агонь, вада, голад – мы ўжо ведаем, што гэта.

Я пачала разумець, як мог адчуваць сябе Езус на крыжы. Пачуццё такога "чаму?". Я не ўспрымаю гэта ўсё як нейкае Божае пакаранне. Разумею, што Бог дае свабоду выбару. Ён даў нам вольную волю – гэта прыкмета вялікай любові. У тым ліку ў кожнага расіяніна, які прыходзіць у маю Украіну, ёсць права выбару: страляць ці не страляць.

Калі я гляджу здымкі з Харкава, Марыупаля, разумею, што Бог не з'ехаў з Украіны. Ён з намі ўсё перажывае. Гэта, напэўна, самае моцнае – я разумею, што ва ўсім гэтым Ён з намі. І ў Харкаўскім метро, і з галадаючымі ў Марыупалі…

Разам з тым ёсць шмат неверагодных гісторый. Мы працуем з сем'ямі, і аднаго мужа з нашай супольнасці мабілізавалі. Натуральна, яго жонка перажывае, але таксама яна часам званіць і распавядае, як Бог яго ўратаваў. Ёсць шмат момантаў, якія розумам спасцігнуць немагчыма.

Па-іншаму, глыбей стала ўспрымацца г. зв. жыццё сённяшнім днём. Першыя 10-20 дзён было такое моцнае пачуццё: раніцай расплюшчваеш вочы і разумееш, што ты яшчэ жывы. З'явілася шчырая ўдзячнасць за кожную раніцу. Перажыванне прысутнасці Бога стала блізкім. Памятаю, пралятае над нашым домам ракета і ты разумееш, што вось Госпад даў яшчэ адзін шанс, зберог ад чагосьці.

Але ў той жа час застаецца шмат пытанняў "чаму?". На іх няма адказу. Я проста разумею, што ёсць дзень і яго трэба пражыць, нешта зрабіць – і ты ўдзячны Богу за гэта.

***– Як Вы, сёстры назарэтанкі, змагаецеся з хваляй нянавісці да ворагаў?***

– Гэта вельмі складана. На дадзены момант я разумею, што проста па-чалавечы гэта немагчыма. Калі мы молімся Ружанцам з сем'ямі, мне складана вымаўляць фразу пра навяртанне нападнікаў. Таму я спачатку прасіла Бога проста

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ЯК ДАПАМАГЧЫ ЧАЛАВЕКУ, ЯКІ ТРАПІЎ У СЕКТУ?



**Кс. Павел Салабуда,**
*псіхолаг*

Адразу хачу сказаць, што я разглядаю секту як залежнасць. Апынуўшыся ў секце, чалавек губляе ўнутраную свабоду, надзявае розныя маскі рэлігійных заблытанняў, з якіх ужо не можа вырвацца самастойна, таму яму патрэбна дапамога. Часам дастаткова падтрымкі кагосьці блізкага, але часцей за ўсё сітуацыі бываюць настолькі складанымі, што патрабуецца дапамога спецыяліста.

Чалавек, які трапляе ў секту – а даследаванні паказваюць, што часцей за ўсё гэта маладыя людзі, – сам не будзе прасіць дапамогі. Засігналізаваць аб гэтым могуць яго блізкія, якія заўважылі дзіўныя змены ў паводзінах такой асобы. Няма розніцы, якую назву мае секта: кожная з іх адымае ў чалавека ўнутраную свабоду, а часам нават і розум. Таму, каб вярнуцца да нармальнага жыцця, чалавек павінен зноў знайсці свабоду і здольнасць думаць.

Кожная секта выкарыстоўвае свае метады вярбоўкі, і трэба быць вельмі ўважлівым да таго, хто і што нам прапануе. Напрыклад, вядомы такія метады, як хаджэнне па хатах у пошуку адзінокіх, хворых асоб або тых, хто адчаіўся, арганізацыя якіх-небудзь лагераў адпачынку або дабрачыннай дзейнасці. Варта памятаць, што секта патрабуе падпарадкавання, яна пачынае вырашаць усе аспекты жыцця сваіх членаў, а таксама выкарыстоўвае такія метады, як дэзінфармацыя і камуфляж.

Дапамога чалавеку, які трапіў у секту, вельмі складаная і патрабуе вялікіх намаганняў і цярплівасці. Добра, калі да такой дапамогі далучаецца ўся сям'я. Перш за ўсё, варта запомніць і паспрабаваць наступныя крокі:

***1. Нельга панікаваць. Кожнае дзеянне неабходна абдумаць, бо эмоцыі ў такой сітуацыі могуць толькі перашкодзіць.***

***2. У сям'і павінны быць цёплыя адносіны і пастаянны кантакт. Варта шмат размаўляць і праводзіць час разам, напрыклад, плануючы сумесны адпачынак, розныя мерапрыемствы. Чалавек, які апынуўся ў секце, не павінен замыкацца ў сабе.***

***3. Можна стварыць спецыяльную групу людзей, з кім асоба мела добрыя кантакты да таго, як далучылася да секты (напр. бацькі, знаёмыя, блізкія сябры, настаўнік і г. д.).***

***4. Не нападаць на такіх людзей, а наадварот, аказваць сардэчнасць, цікавасць. Часцей гаварыць пра сваю любоў да гэтага чалавека.***

***5. Паспрабаваць разабрацца ў сітуацыі і знайсці прычыны, па якіх асоба трапіла ў гэтую групу. Неабходна збіраць інфармацыю.***




***6. Варта заахвоціць чалавека задумацца над сваімі паводзінамі, паспрабаваць звярнуцца да сувязяў, якія вас яднаюць, узгадаць шчаслівыя падзеі, якія вы раней перажылі разам.***

***7. Калі вышэйпералічаныя метады не працуюць, трэба звярнуцца па дапамогу да спецыялістаў, напрыклад, да святара або псіхолага.***

На жаль, у Беларусі няма спецыялізаваных цэнтраў дапамогі такім людзям ці іх сваякам, але варта паспрабаваць спачатку паразмаўляць са сваім пробашчам, які ўжо пакіруе ўсёй гэтай справай.

Было б вельмі добра, калі б пасля прачытання гэтага артыкула знайшліся людзі, якія ўжо перажылі падобную праблему і выйшлі да супрацоўніцтва, каб стварыць своеасаблівую каманду дапамогі ўсім тым, хто цяпер трапляе ў секты. Прашу звяртацца ў рэдакцыю газеты, якая ўжо паведаміць мне. Памятайма, што сект шмат і іх дзейнасць вельмі шкодная.

---

дапамагчы мне за іх маліцца.

Сёння разумею, што злавацца, але не ненавідзець – гэта ласка. Прабачыць таму, хто прыходзіць і свядома гвалціць жанчыну перад чатырма дзецьмі, немагчыма, нерэальна. Па законах Старога Запавету трэба было б помсціць. Аднак разам з тым разумееш, што Новы Запавет – гэта нейкая вышэйшая школа, ВНУ.

Я ўсведамляю, што сваімі сіламі прабачыць не магу. Без веры, без погляду на Езуса Хрыста на крыжы гэта немагчыма. Прабачэнне з'яўляецца дарам, які трэба вымольваць. Самому неяк прабачыць не атрымаецца зусім. Гэта рана на стагоддзі. Да таго ж лягчэй прабачыць, калі ў цябе хтосьці просіць прабачэння. У нас прабачэння ніхто не просіць. Вось гэта складана. Таму заданне "дазволь нам не ненавідзець" – заданне на вельмі шмат гадоў.

***– Вы напісалі: "Калі вайскоўцы ўзялі ў рукі зброю, мы ўзялі ў рукі ружанец". А што будзе, калі вайсковыя адложаць зброю, настане мір? Як залечваць раны, якія заданні будуць стаяць перад хрысціянамі?***

– Трэба вяртацца да вытокаў, да Госпада Бога. Хрысціянам трэба стаць прыкладам адсутнасці нянавісці. Каб прабачэнне было нашым рашэннем, выбарам.

У той жа час вайна паказвае, хто ёсць хто. Пасля яе нам не трэба будзе мерацца, хто больш зрабіў: ужо сёння ёсць такія размовы, што нехта выехаў, а мы, героі, засталіся. Гэта чыста чалавечае – ніхто ж не ведае, каму складаней: тут ці там. Нам, хрысціянам, трэба будзе стаць прыкладам салідарнасці з пакутуючымі. Трэба будзе наноў вучыцца заўважаць брата побач.

Разам з тым падчас вайны адбываюцца і добрыя рэчы: шмат цяжкахворых дзяцей выехалі за мяжу для бясплатнага лячэння. У мірны час гэтага не было б. Ёсць вялізная салідарнасць украінцаў паміж сабой – у краіне і за мяжой. Пасля вайны мы не можам забыць гэтую дапамогу, развучыцца быць такімі салідарнымі. На дадзены момант прымаўкі "мая хата з краю" ў нас не існуе, чужых праблем няма. Цяпер ёсць жарты тыпу: "калі ўкраінскаму валанцёру даць заданне знайсці скуру дыназаўра, ён знойдзе яе за 2 гадзіны". Я баюся, гэта штосьці, што пасля вайны мы можам страціць. Можам пачаць адстройваць свае агароды, а не грамадства.




*"Карытас" сусветнага Касцёла далучыўся да дапамогі пакутуючым ад вайны жыхарам Украіны*

Тое самае тычыцца і малітвы. Цяпер мы шмат молімся, і важна, каб пасля перамогі Бог не стаў непатрэбным.

***– Я шмат разоў сустракаў меркаванне, што так, як Украіна моліцца сёння, яна, напэўна, ніколі не малілася. Я правільна разумею, што ў гэтыя дні таксама важна маліцца, каб украінскі народ не згубіў гэтай прагі Бога пасля вайны?***

– Так, каб працягваў маліцца. Каб заклікі "Наша перамога ў Богу і ва Узброеных Сілах Украіны", якія сёння бачым на білбордах, не зніклі. Каб мы хуценька не пачалі прымаць законы супраць людской годнасці, ненароджаных дзяцей.

Мы, славяне, традыцыйныя народы. Вось да вайны мы жылі традыцыяй: прыйшлі, пастаялі ў храм, асвяцілі пасхачку – і ўсё. Цяпер малітва стала канкрэтнай, гарачай: "Госпадзе, у нас дома вораг, ратуй нас, іншага выйсця няма". Хочацца, каб гэты жывы зварот да Бога не знік пасля вайны.

---

# ЯК ПРАБАЧЫЦЬ НЕПРАБАЧАЛЬНАЕ?



**Яна Чайко**

Я ўжо ўсвядоміла: думка, што я жыву ў вельмі жудасны час, – гэта не думка. Гэта рэчаіснасць, да якой не хочацца прызвычайвацца, але якую трэба прыняць і неяк навучыцца з ёю жыць.

Нават у такі час я знаходжу плюсы: я пазнаёмілася з неверагоднымі людзьмі, з якімі лягчэй перажываць усё, што адбываецца, навучылася цаніць тое, што раней успрымалася як нешта зусім нармальнае, напрыклад, сустрэчы з сябрамі і сямейныя вячэры.

Але ў той жа час я пазнала, чым з'яўляецца нянавісць.

Гэта вельмі моцнае пачуццё, якое нішчыць усё ўнутры, пачынаючы з любові. І адзіны метад для знішчэння нянавісці – прабачэнне.

Як прабачыць таму, хто не просіць прабачэння і нават не лічыць сябе вінаватым? Як прабачыць непрабачальнае? Здаецца, што ніяк.

Мае любімыя словы з Пісання гучаць так: ***"Даруйце адзін аднаму, як і Бог у Хрысце дараваў вам"*** *(Эф 4, 32)*. Я ўспамінаю Галгофу: невінаватага ні ў чым Езуса ўкрыжавалі, а Ён прасіў свайго Айца прабачыць ім, бо тыя не ведаюць, што робяць. Хто я такая, каб не прабачыць нешта, калі Езус прабачаў з крыжа?

Адказваць злом на зло – гэта толькі самазадавальненне. Такім учынкам не атрымаецца змяніць сітуацыю. А нішчыць сябе знутры, жадаючы зла іншаму, – гэта нянавісць да сябе. Я вельмі хачу верыць у справядлівы свецкі суд і ў тое, што ён прынясе хоць нейкія плады. Але яшчэ больш хочацца навяртання і шчырага пакаяння вінаватых. ***"Каб не загінулі, але мелі жыццё. Вечнае".***

# МЕТАДЫ РАСПАЗНАВАННЯ ПЛОДНАСЦІ – ВЕРА ЦІ ВЕДАННЕ?



**Вераніка Рогач** – каталічка, шчаслівая жонка і маці траіх дзяцей, псіхолаг і сямейны кансультант. Разам з мужам распрацавала і вядзе курс па навучанні сімптатэрмальнаму метаду распазнавання плоднасці. Звярнуцца за інфармацыяй або кансультацыяй можна праз акаунт жанчыны ў Instagram **@veronikarogach (сямейны псіхолаг)**.

Час ад часу здараецца дыялог, які выклікае ўва мне буру эмоцый. Ён паўтараецца зноў і зноў са шлюбнымі парамі, маладымі і ўжо вопытнымі сем'ямі, выпадковымі знаёмымі, якія сочаць за маёй старонкай у Instagram, з сяброўкамі і скептыкамі.

– Я не веру ў гэтыя метады, – кажуць мне звычайна.

– Не верыце? – адказваю я з усмешкай. – Я таксама не веру ў метад. Гэта пытанне не веры, але ведаў. У гэта не трэба верыць. Гэтаму трэба навучыцца і праверыць. Вера патрэбная, каб паверыць у паходжанне чалавека ад Бога, паверыць у тое, што Бог дае чалавеку заданне і розум, здольны зразумець законы прыроды. Вам толькі не хапае ведаў аб тым, калі жанчына можа стаць маці.

– А калі метад падвядзе? – тады адказваюць мне.

– Метад не можа падвесці, – зноў усміхаюся я. – Падвесці могуць людзі: бо гэты "метад" заснаваны на тым, што ў перыяд, калі муж і жонка могуць стаць бацькамі, вы ўстрымліваецеся ад дзеянняў, якія могуць прывесці да зачацця.

Метад, заснаваны на адмове, не можа падвесці, бо без інтымнай блізкасці бацькоў дзіця не з'явіцца. Ваша рашэнне павінна быць сумесным: мы абодва ведаем, у чым справа, абодва ведаем, калі жанчына можа стаць маці, і калі сумленне падказвае, што цяпер дзіцяці не павінна быць, то сужэнская блізкасць адбываецца ў тыя дні, калі зачацце немагчыма. Дакладнае рашэнне, прынятае ў згодзе з сумленнем, правільна рэалізаванае, дазваляе знайсці выхад з няпростай сітуацыі.

Апрыёрныя сцвярджэнні "Не веру ў метады распазнавання плоднасці" ці "Гэтыя метады малаэфектыўныя" з'яўляюцца прычынай здзяйснення граху выкарыстання кантрацэптыўных сродкаў.

Сужэнскім парам заўсёды рэкамендую навучыцца назіраць за сабой, прыстасавацца да натуральных рытмаў – і канфлікт з сумленнем знікне. Знікне страх перад "пазапланавым" дзіцём, таму што любыя штучныя прэпараты могуць падвесці. Нягледзячы на выкарыстанне кантрацэптыўных сродкаў, у некаторых жанчын адбываецца зачацце, хоць відавочна, што калі ўстрымлівацца ад інтымнай блізкасці, то дзіцяці не будзе, а значыць, не будзе і ніякай няўпэўненасці.

Кожны можа быць на сто працэнтаў упэўнены, што калі не было блізкасці, то не будзе і зачацця. Гэтая простая ісціна не патрабуе доказаў.

Не трэба верыць у эфектыўнасць метаду. Трэба праверыць яго і навучыцца ім карыстацца.




працяг са с. 1

**Здаецца, толькі ўчора адзначалі 20-гадовы юбілей газеты, узгадваючы разам з рэдактарам-заснавальнікам пачаткі выдання, як надышла чарговая прыгожая дата – 25-годдзе "Слова Жыцця". За апошні перыяд газета "прыхарашылася" знешне – з новага сезона 2020 года пачала выходзіць у аднаўленым выглядзе: больш стрыманым, а разам з тым і больш стылёвым. Выданне таксама ўзбагацілася ўнутрана: уздымаліся вострыя тэмы, распавядаліся жыццёвыя гісторыі, раскрываліся духоўныя пытанні і даваліся практычныя парады.**

***Ангеліна Марцішэўская***

***Сёння ўзгадваем самыя цікавыя і гарачыя артыкулы з апошніх, да якіх варта вярнуцца, калі прапусціў. Вялікі архіў газеты знойдзеш на партале slowo.grodnenisis.by.***

Варта пачаць з інтэрв'ю з кс. Андрэем Кеўлічам **(№556 з 21 лютага 2021 г.)**, які распавядае пра цэнтр нашага рэлігійнага жыцця – удзел у Эўхарыстыі. Каб змагацца з аўтаматызмам у Літургіі, святар прапануе як мінімум прыходзіць на св. Імшу за 15 хвілін да яе пачатку.

Для цікаўных "закуліснага" жыцця прапануем звярнуцца да цыклу матэрыялаў пра пакліканне да святарства нашых мясцовых ксяндзоў **(№560 – №563 за красавік і май 2021 г.).** Можа, хтосьці знойдзе там неверагодную гісторыю з мінулага свайго пробашча ці вікарыя.

Ёсць таксама прыклады навяртанняў для тых, хто хоча ўпэўніцца – у Бога ўсё магчыма. Пра шлях ад нядзельнага католіка да верніка і пра дарогу інтэлектуальнага пошуку Госпада чытайце **ў №574 з 5 снежня 2021 г.**

А тым, хто з'яўляецца актыўным членам супольнасці Касцёла і клапоціцца, каб развіваць парафіяльнае жыццё і пры гэтым не сварыцца з пробашчам з-за "дзялення ўлады", прапануем матэрыял **з №573 з 21 лістапада 2021 г.** Добры прыклад таго, як адбываецца супрацоўніцтва паміж святаром і Касцёльным камітэтам і чаму такая форма адміністравання з'яўляецца палёгкай як для духавенства, так і для парафіян.

Ахвотных даведацца, як выглядае жыццё Касцёла за мяжой, запрашаем пачытаць пра досвед беларусаў у практыцы веры ў Мексіцы, Грузіі, Швейцарыі, Англіі. Усе артыкулы **ў нумарах за 2021 г.**

Цікавым досведам стала супрацоўніцтва з ілюстратарам, якая, назіраючы за людзьмі ў касцёле, адмыслова для нашай газеты стварыла замалёўкі да артыкула пра грамнічныя свечкі. Знайсці матэрыял можна **ў №554 з 24 студзеня 2021 г.**

За апошні час у рэдакцыі было шмат цікавых герояў, але, хіба што, найбольш неардынарнай асобай стаў блогер Фёдар Астаповіч, усцяж пакрыты татуіроўкамі і пірсінгам. У мінулым член супольнасці братоў-капуцынаў, на дадзены момант ён зрабіў выбар на карысць ратавання цел, а не душ, і служыць у медыцыне. Якраз з нагоды Вялікадня раім узгадаць матэрыял **(№558 з 21 сакавіка 2021 г.**) пра досвед Фёдара ў якасці Хрыста, што ідзе на Галгофу, у адмысловай тэатралізаванай пастаноўцы.

Безліч карысных ведаў на тэму экалагічнага суіснавання можна знайсці **ў кожным другім нумары выдання цягам апошніх двух гадоў**. Следуючы наказу папы Францішка клапаціцца пра навакольны свет, на старонках газеты паўстала цэлая энцыклапедыя ў галіне пытанняў экалогіі. Пачынаючы з таго, як правільна дбаць пра магілы продкаў, і заканчваючы добраўпарадкаваннем прылеглай да дому тэрыторыі.

Калі казаць аб памяці пра мінулае пакаленне, раім звярнуцца да артыкулаў на тэму сувязі гістарычнай памяці нашага народу з актуальным станам нашай веры. Чаму маем шмат мучанікаў за Хрыста, але мала пашаны да іх подзвігаў – чытаць у інтэрв'ю з а. Жарнасекам **(№571 з 24 кастрычніка 2021 г.)**, з гісторыкам і праваслаўным веруючым **(№566 з 11 ліпеня 2021 г.)**, а таксама ў біяграфіі сястры стыгматычкі з Гродзеншчыны **(№549 з 8 лістапада 2021 г.).**

На заканчэнне прапануем узгадаць парады, якія дапамогуць прымірыцца з Богам. Як атрымаць адпушчэнне грахоў, а не псіхалагічную кансультацыю, шукайце **ў №579 з 20 лютага 2022 г.**

**Асалоды ад чытання!**

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Што трэба рабіць, каб падрыхтавацца да шлюбу, і колькі часу спатрэбіцца?

***grodnensis.by***

*Добрая і паглыбленая падрыхтоўка да заключэння сужэнскага саюзу можа ў значнай меры прычыніцца да трываласці і большай плённасці жыцця ў сужэнстве і сям'і. Таму маладым людзям варта перад заключэннем сужэнства прысвяціць адпаведны час з мэтай паглыблення ведаў і свядомасці ў сферы сужэнства і сям'і, бо гэта будаўніцтва шчаслівай уласнай будучыні на аснове выбару правільнай іерархіі каштоўнасцей.*

*Калі маладыя людзі рашаюцца на заключэнне сужэнскага саюзу, то павінны звярнуцца ў парафію, да якой належаць. Пробашч ці іншы ўпаўнаважаны святар праінфармуе заручаных аб неабходных дакументах і этапах падрыхтоўкі да сакраманту сужэнства. Спатрэбяцца пасведчанні аб хросце, канфірмацыі, І Камуніі (калі прымалі гэтыя сакраманты ў іншай парафіі, чым тая, дзе будзе заключацца шлюб) і дакумент ідэнтыфікацыі асобы.*

*Найважнейшыя пытанні – перадшлюбныя заняткі, перадшлюбныя паведамленні і перадшлюбны пратакол. Пачынаць трэба з перадшлюбных заняткаў, якія арганізоўваюцца ў вялікіх парафіях цыклічна для некалькіх пар адначасова, а ў меншых – для кожнай пары асобна. Мэта заняткаў – абмеркаванне пытанняў, звязаных з заключэннем шлюбу, супольным жыццём, правамі і абавязкамі сужэнцаў, іх духоўным жыццём, а таксама стварэннем сям'і і адкрытасцю на прыняцце і выхаванне патомства. Дзе гэта магчыма, у межах курсу праводзяцца сустрэчы са спецыялістамі ў сферы медыцыны і псіхалогіі. Такі курс лепш прайсці ў парафіі пражывання, але можна таксама запісацца ў іншым месцы, дзе пры касцёле арганізаваны заняткі, а пасля прадставіць адпаведныя пасведчанні ў касцёл, дзе будзе заключацца сакрамант шлюбу.*

*У падрыхтоўку да сужэнства належыць уключыць таксама кананічна-душпастырскую размову, якая называецца перадшлюбным пратаколам і якую святар праводзіць з заручанымі. На такую размову будучыя сужэнцы павінны прыйсці разам. Яна датычыць, акрамя асабовых дадзеных, здольнасці да сужэнства, перашкод, таго, што супярэчыць волевыяўленню заключэння шлюбу, а таксама іншых пытанняў.*

*Сакраментальнае сужэнства – справа Бога і чалавека, таму важным элементам падрыхтоўкі з'яўляецца асабістая і ўзаемная малітва тых, хто хоча стаць перад алтаром, каб перад абліччам Бога прынесці сужэнскую прысягу, аддаючы сябе іншай асобе і прымаючы яе як дар. Варта таксама з наймалодшых гадоў маліцца аб добрым мужы і добрай жонцы. Малітвай могуць падтрымліваць бацькі, хросныя, родныя і блізкія, а таксама ўся парафіяльная супольнасць.*

# ЗА ШТО ТРЭБА ДЗЯКАВАЦЬ БОГУ?

працяг са с. 1

**Каб абнаўляцца розумам, каб больш набліжацца да самога сябе, да Бога і да іншых людзей, нам неабходна змяніць сваю перспектыву бачання: змяніць наракане на падзяку.**

Бажэна Панасевіч




Падзяка – дзівосны інструмент, які змагаецца з нашым гонарам. Гэта хлеб, які здольны насыціць нас, зберагчы ад духоўнай смерці з-за прагі чужых рэчаў, талентаў, асяроддзя і ўсяго таго, што ёсць у іншага чалавека. ***“Глядзіце, нікому злом за зло не адплачвайце, але рабіце заўсёды дабро адзін аднаму і ўсім. Заўсёды радуйцеся, няспынна маліцеся. За ўсё дзякуйце, бо такая адносна вас воля Божая ў Езусе Хрысце”*** *(1 Тэс 5, 15–18)*.

Падзяка – гэта першая прылада вяртання да самога сябе, да прызнання каштоўным таго, што ты робіш, вынаходзіш, маеш. Яна дазваляе цешыцца і быць шчаслівым. Дазваляе ўбачыць шлях, якім пойдзеш далей. Бо ведаючы, што маеш, ты лепш разумееш, чаго хочаш яшчэ – свае самыя смелыя мары і мэты.

У гэтым свеце хуткіх магчымасцей, калі ўсё ёсць на адлегласці выцягнутай рукі, цяжка дзякаваць. Цяжка дзякаваць і ў крызісах, калі столькі зла адбываецца на зямлі. І становіцца незразумела, за што ў прынцыпе дзякаваць? За тое, што ўсё стала горкай і нясмачнай штодзённасцю, ці за грахі і боль? Аднак на гэты конт апостал Павел у Другім пасланні да Карынцянаў піша наступнае: ***“Таму ўпадабаў я слабасць, пагарду, нястачы, ганенні і ўціск за Хрыста, бо калі я слабы, тады моцны”*** *(2 Кар 12, 10)*.

Так, падзяка – гэта не толькі прыемнае пачуццё, якое можа з’явіцца пры выглядзе ранішняга сонца або ў адказ на нешта прыемнае, зробленае іншым чалавекам адносна цябе. Гэта навык, а можа, нават стан твайго сэрца. Калі незалежна ад таго, што адбываецца навокал, незалежна ад сваіх пачуццяў, ты дзякуеш… і радуешся.

Гэтаму стану трэба вучыцца. Аб гэтым, як і аб усім іншым, што нам неабходна, трэба прасіць: ***“Чыстае сэрца ствары ўва мне, Божа, і аднаві ўва мне трывалы дух”*** *(Пс 50, 12)*; ***“Прасіце, і будзе дадзена вам; шукайце, і знойдзеце; стукайце, і адчыняць Вам”*** *(Мц 7, 7)*.

**Пры гэтым неабходна:**

1. Верыць: ***“Але няхай просіць з вераю і не сумняваецца, бо той, хто сумняваецца, падобны да марской хвалі, якую ўздымае і кідае вецер”*** *(Як 1, 6)*.

2. Не баяцца новага: ***“Не бойся, бо Я з табою; не бянтэжся, бо Я – Бог твой; Я ўмацую цябе і дапамагу табе, і падтрымаю цябе правіцаю праўды Маёй”*** *(Іс 41, 10)*.

3. Разумець, што падзяка – гэта працэс, які паступова нараджаецца ў чалавеку. Не трэба зараз жа патрабаваць ад сябе змен: ***“Усё мае свой адпаведны час, свой час мае кожная справа пад небам”*** *(Экл 3, 1)*.

4. Пачаць часцей радавацца дробязям, старацца заўважаць іх кожны дзень. У выніку: ***“І дам вам сэрца новае і дух новы дам вам; і вазьму з плоці вашай сэрца каменнае, і дам вам сэрца цялеснае”*** *(Эз 36, 26)*.

5. Шукаць глыбейшы сэнс ва ўсім, што з табой адбываецца. Ніколі не шкадуй ні пра што. Прасі аб разуменні і прыняцці ўсяго, што навокал: ***“Калі некаму з вас нестае мудрасці, няхай просіць у Бога, які шчодра дае ўсім і не дакарае, – і будзе дадзена яму”*** *(Як 1, 5)*.

Падзяка патрабуе сталасці. Яна з’яўляецца ўсвядомленым прыняццем таго, што нам дадзена. Хто не ўмее дзякаваць, не ўмее і прымаць.

Усё, што нас акружае, усе рысы твайго характару – гэта дар. Ты можаш спытаць, напрыклад: “Як можа быць дарам мая балбатлівасць?”. Можа! Усё, што нам непадкантрольна, – дар Бога Айца, якім бы ён ні быў. Мы прывыклі думаць, што дар – гэта нешта такое, што нараджае захапленне іншых людзей, прызнанне. Аднак тое, што цяжка для нас, тое, што робіць нас “меншымі” за іншых – гэта таксама дар. Гэта развівае пакору. Што несумненна добра для нас, хоць часта гэтага не разумеем.

А самы вялікі дар – гэта Езус, які дае сябе пад выглядам хлеба і віна ў Эўхарыстыі (ад грэч. Ευχαριστία – падзяка).

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч, святар рымска-каталіцкага абраду

*17 красавіка – каментарый да Евангелля на Нядзелю Уваскрасення Пана (Ян 20, 1–9)*

### Трыумф Езуса – наша надзея

*Ніхто не бачыў уваскрасення. Гэты момант не апісвае ніводнае з Евангелляў. Што важна: Евангелле не з’яўляецца рэканструкцыяй падзей, гэта збор сведчанняў. Падзея ўваскрасення не паддавалася ўяўленню аўтараў, якія, урэшце, маглі б прыдумаць бачанне ўваскрослага Езуса. Уваскрасенне грунтуецца на сведчаннях.*

*Святы Ян убачыў пустую магілу, успомніў прадказанні Старога Запавету і самога Езуса ды зразумеў, што адбылося. Пётр у доме Карнэлія кажа: “Бог дазволіў яму з’явіцца нам, [...] якія елі і пілі разам з Ім пасля Ягонага ўваскрасення” (параўн. Дз 10, 40–41).*

*Але вялізным сведчаннем уваскрасення з’яўляецца таксама цяперашні год і Касцёл, які існуе ў нас, верніках. Усё яшчэ жывая супольнасць, існаванне якой не мела б сэнсу, калі б не ўваскрасенне Езуса. Касцёл – гэта не што іншае, як жывая рэалізацыя паслання ўваскрасення і заклiку св. Паўла: “Пра тое, што ў вышынях, думайце, а не пра зямное” (Клс 3, 2).*

*Ад сёння мы не павінны занадта турбавацца аб справах гэтага свету. Наша радзіма ў Небе. Па прыкладзе нашага Збаўцы мы можам жыць прыгожа і высакародна. Можам дараваць адзін аднаму, нягледзячы на нянавісць, якая нас закранае; можам радавацца, нягледзячы на смутак, і служыць, нягледзячы на абвінавачванні ў слабасці. Прыняўшы хрост і стаўшы хрысціянамі, мы памерлі для граху. Мы ўваскрэслі, і наша жыццё схавана з Хрыстом у Богу. Калі Ён зноў прыйдзе судзіць зямлю, тады і мы разам з Ім з’явімся ў славе. Бо “калі мы памерлі з Хрыстом, то верым, што і жыць будзем з Ім” (Рым 6, 8).*

*Уваскрасенне, якое ва ўсіх адносінах было выключнай і беспрэцэдэнтнай падзеяй у гісторыі чалавецтва, стала трыумфам Езуса Хрыста і рэвалюцыяй, што змяніла ўсё чалавецтва і падарыла людзям непахісную надзею.*

А. Андрэй Крот, святар грэка-каталіцкага абраду

*24 красавіка – каментарый да першага чытання на ІІ Велікодную нядзелю (Дз 5, 12–16)*

### Царква і малітва аб ацаленні

*Першае чытанне на Другую Велікодную нядзелю нагадвае нам пра пачаткі Царквы. Звернем увагу на тое, якое важнае месца ў станаўленні супольнасці вучняў Хрыста займаюць аздараўленні. “Праз веру ўсё больш далучалася да Госпада, мноства мужчын і жанчын, так што выносілі хворых на вуліцы і клалі іх на насілках і ложках, каб хоць цень Пятра, калі ён праходзіў, упала на каго-небудзь з іх. Сыходзілася таксама ў Ерусалім з навакольных мястэчак мноства людзей, якія прыносілі хворых і апанаваных нячыстымі духамі, і ўсе яны вылечваліся” (Дз 5, 14–16).*

*У візантыйскай традыцыі малітва аб ацаленні мае не толькі прыватны, але, перш за ўсё, супольны характар. Нездарма адна з назваў Святой Тайны (Сакраманту) Хворых – Сабораванне – паходзіць ад слова “сабор” – сход, з’езд. Традыцыйна яго ўдзялялі некалькі святароў, найлепш сем. Царква моліцца за нядужых і ў самыя важныя моманты Літургіі. Просьбы за хворых дадаюцца ў Літанію ўзмоцненага малення, адпаведнікам якой у лацінскім абрадзе можна лічыць Малітву верных. Яшчэ дзве ўзгадкі пра тых, хто пакутуе ад хвароб, падкрэсліваюць сувязь веры ў ацаленне з прысутнасцю Госпада ў Эўхарыстыі. Ад імя ўсёй супольнасці святар узносіць малітву пасля перамянення хлеба і віна ў Цела і Кроў Хрыста: “Успомні, Госпадзе, падарожнікаў па моры, зямлі і ў паветры, хворых, тых, што церпяць, зняволеных – і пашлі ім збаўленне”. А ў малітве перад Прычасцем святар не толькі просіць Хрыста за нядужых, але і самога Госпада называе Лекарам: “Дык вось, Уладару, прынесеныя тут дары ўсім пароўну раздай, кожнаму паводле патрэбы: будзь з падарожнікамі па моры, зямлі і ў паветры, аздараві хворых, Лекару душ і цел”.*

*Сёння ў Каталіцкай Царкве малітва за ацаленне набывае надзвычайную папулярнасць. Аднак крытыкі часта расцэньваюць яе як нейкае нетрадыцыйнае новаўвядзенне. Варта нам звяртацца да вытокаў хрысціянства, у якім малітва аб ацаленні існавала ад самага пачатку ды стварала Царкву.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ІМЯНІН

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ясевічу** жадаем моцнага здароўя, нястомнай радасці, шчасця і поспехаў у душпастырскай паслузе. Няхай міласэрны Бог благаслаўляе кожны момант Вашага жыцця, Езус падтрымлівае ва ўсім, а святы заступнік нястомна апекуецца.

Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Вялікіх Эйсмантаў

**Паважанаму Айцу Ежы Саковічу** жадаем моцнага здароўя, надзеі і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Бог асвячае дарогу Вашага жыцця, умацоўвае розум і сэрца, каб Слова, што выходзіць з Вашых вуснаў, стала агнём, святлом і моцай для нашай веры.

Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Карэлічаў і Варончы

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Федуку** жадаем, каб добры Бог адорваў Вас шчодрымі ласкамі, а святы заступнік няспынна маліўся за Вас перад Божым тронам. Жадаем здароўя, сілы, стойкасці, непахіснай веры і надзеі.

Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Ражанкі

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Жэгарыну** жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, людской добразычлівасці і мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай Езус Хрыстус заўсёды і ва ўсім Вам дапамагае, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі.

Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Навагрудка і Любчы

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Барташэвічу і Юрыю Ясевічу** жадаем моцнага здароўя, пасяховай святарскай паслугі і спакою ў сэрцы.

Апостальства "Маргарытка" парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Беняконях

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ДНЯ СВЯТАРА І ВЕЛІКОДНЫХ СВЯТ

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, Галоўнаму Рэдактару Ксяндзу Юрыю Марціновічу і ўсім Ксяндзам, якія раней працавалі ў рэдакцыі,** жадаем шчодрых Божых ласкаў і благаслаўлення ў паслузе. Няхай святло ўваскрослага Хрыста стане для Вас надзеяй на мір і падтрымкай у цяжкую хвіліну.
**Ксяндзу Рэдактару** з нагоды імянін жадаем патрэбных Божых ласкаў, моцнага здароўя на доўгія гады, шмат радасных дзён і цішыні ў сэрцы.

Рэдакцыя "Слова Жыцця"

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу і Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму** жадаю, каб уваскрослы Езус быў для Вас крыніцай радасці і спакою, благаслаўляў у душпастырскай паслузе і спадарожнічаў на шляху да святасці.

Генеральная настаяцельніца Супольнасці Сясцёр Дапаможніц Чыстцовым Душам с. Ірэна Златкоўская

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзу Арцыбіскупу Юзафу Станеўскаму і Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, паважанаму Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю, усім Ксяндзам і Сёстрам Гродзенскай дыяцэзіі** жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, радасці, душэўнага супакою, шчырых людзей побач і шчодрых дароў Святога духа. Няхай Бог Айцец адорвае Вас сваёй любоўю, уваскрослы Езус благаслаўляе, а Марыя аберагае ад нягод.

Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Крупава

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу** жадаем, каб уваскрослы Хрыстос Вас благаславіў, Святы Дух спадарожнічаў у кожную хвіліну, а Анёл-ахоўнік заўсёды аберагаў.
З нагоды дня нараджэння, імянін і 15-ай гадавіны святарства жадаем моцнага здароўя і радасці. Няхай абвяшчаемае Вамі Божае слова яшчэ глыбей пранікае ў сэрцы вернікаў.

Касцёльны камітэт, парафіяне, моладзь і дзеці з Жамыслаўля, а таксама вернікі з Гіравічаў

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Віктару Субелю** жадаем шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа, апекі Маці Божай і моцнага здароўя на доўгія гады жыцця.
З нагоды дня нараджэння і 25-ай гадавіны святарства жадаем таксама, каб святы заступнік нястомна падтрымліваў Вас сваім прыкладам і заўсёды дапамагаў пераадольваць цяжкасці.

Касцёльны камітэт, парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Сурвілішках

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Радзюку, Тадэвушу Крыштопіку, Паўлу Звяжынскаму, Паўлу Урбану, Паўлу Гардзейчыку і Паўлу Раманоўскаму** жадаем, каб святло ад уваскрасення Хрыста апраменьвала Ваша жыццё, Святы Дух удзяляў свае дары, а Найсвяцейшая Маці нястомна дадавала сіл.

Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне

**Паважаным Айцам Пробашчу Андрэю Ядкоўскаму, Юзафу Гензу, Андрэю Врублеўскаму, Эдуарду Пяцельчыцу, Зміцеру Чарнелю, Дзмітрыю Лабкову, Максіму Лабкову, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану, Вальдэмару Слоту і Ксяндзу Паўлу Аляскевічу** жадаем моцнага здароўя, радасці і душэўнага супакою. Няхай уваскрослы Хрыстос благаслаўляе ў намаганнях, а кожны сустрэты чалавек дзеліцца з Вамі сваёй дабрынёй.

Супольнасць Францішканскага ордэна свецкіх, апостальства "Маргарытка" і ўдзячныя вернікі парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Раманоўскаму** жадаем моцнага здароўя, пасяховай рэалізацыі ўсіх планаў, апекі Маці Божай і дароў Святога Духа. Няхай ніколі не згасне Ваша руплівасць на ніве Пана, палымянасць у малітве, цеплыня і любоў, якімі дзеліцеся з намі, а прамяні Божай міласэрнасці заўжды асвячаюць Ваша святарства.

Моладзь, дзеці і парафіяне касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Граўжышках

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Уладзіславу Сурвілу** жадаем моцнага здароўя, радасці ў душпастырскай паслузе, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай добры Бог заўсёды Вас аберагае і адорвае патрэбнымі ласкамі, Маці Божая штодзённа апекуецца, а Святы Дух напаўняе сваім святлом.

Вернікі парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў в. Войстам

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму** жадаем, каб уваскрослы Хрыстос адорваў добрым здароўем і напаўняў сэрца спакоем і радасцю. Цешцеся кожнай хвілінай жыцця!

Андрэй Слонімец і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Капцёўкі і ўсёй Гродзенскай дыяцэзіі

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Канановічу** жадаем моцнага здароўя, сіл на кожны дзень святарскай паслугі і людской зычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Панны Марыі дадаюць цярплівасці. Дзякуем за малітву, адкрытае сэрца і адданую паслугу.

Парафіяне і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцкага са Станевічаў

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу** жадаем здароўя, радасці, шчасця, спакою і шматлікіх ласкаў ад трыумфуючага Збаўцы свету Езуса Хрыста праз рукі Яго Маці Марыі.

Станіслава Сідаровіч, Люцыя Лабэцкая, Марыя Вішнеўская і Марына Скорб з Воўпы

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Яновічу** жадаем, каб дарога, якой Вы штодзённа крочыце, была шчаслівай і благаслаўлёнай. Няхай Маці Божая няспынна апекуецца, а Божы Провід чувае над Вамі.

Касцёльны камітэт і парафіяне з Воўпы

**Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку** жадаем, каб уваскрослы Хрыстос напоўніў радасцю і спакоем, а Маці Божая апекавалася Вамі. Жадаем моцнага здароўя, сіл і стойкасці ў складаных сітуацыях, а таксама шмат нагод для ўсмешкі, бо яна робіць гэты свет лепшым.

Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і вернікі з Астрыны

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу** жадаем, каб усе Божыя ласкі, якімі напоўнены Велікодныя святы, запоўнілі Ваша жыццё і паслугу, каб Маці Божая ахінала сваёй апекай, а побач заўсёды былі зычлівыя людзі.

Вернікі з в. Гінэлі парафіі Нача

**Паважаным Ксяндзу Каноніку Віктару Субелю, Сёстрам Ганне і Агнешцы, Кансэкраваным Удовам Зоф'і і Сабіне** жадаем, каб Збаўца ўзмоцніў Вас у веры, надзеі і любові, здароўе было моцным, радасць – штодзённай, сілы – бясконцымі, а Маці Божая няспынна мела Вас у сваёй апецы.
**Ксяндзу Пробашчу** з нагоды 25-ай гадавіны святарства жадаем таксама, каб святло Святога Духа ніколі не гасла ў Вашым сэрцы, дадаючы сіл для служэння.

Касцёльны камітэт і ўдзячныя парафіяне касцёла Нараджэння НПМ у Трабах

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму і шаноўнаму спадару Старшыні Тадэвушу Жукоўскаму** жадаем шмат радасці, моцнага здароўя, аптымізму, поспехаў ва ўсіх справах, Божага благаслаўлення, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Маці Божай. Няхай уваскрослы Хрыстос прыносіць аднаўленне і дае сілы для пераадолення цяжкасцей.

Працаўнікі гродзенскай катэдры і Пелагея

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Здзіславу Пікулу, Алегу Жураўскаму, Казіміру Мураву, Артуру Ляшнеўскаму, Сястры Караліне, арганістцы Лілії** жадаем моцнага здароўя, сіл, радасці, душэўнага супакою, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай і благаслаўлення ад уваскрослага Езуса Хрыста.

Парафіяне з Дзятлава

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Пузыну, Аляксандру Пятровічу і Эрнэсту Мікалайчыку** жадаем моцнага здароўя, сіл і стойкасці на святарскім шляху, нястомнай апекі Маці Божай і благаслаўлення ад уваскрослага Хрыста на кожны дзень, каб жыццё было асвечана прамянямі Божай міласэрнасці і любові.

Вернікі парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах

**Паважаным Ксяндзам Віктару Захарэўскаму, Здзіславу Пікулу і Паўлу Звяжынскаму** жадаем моцнага здароўя, сіл у душпастырскай паслузе і душэўнага супакою. Няхай уваскрослы Езус благаслаўляе Вас, Святы Дух асвячае Ваш святарскі шлях, а Маці Божая нястомна апекуецца.

Парафіяне з Варнянаў і Вароны

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Беланосу** жадаем шчодрых Божых ласкаў і зычлівых людзей побач. Няхай уваскрослы Езус благаслаўляе Вас, а Святы Дух асвячае святарскі шлях.

Парафіяне з Макараўцаў

**Дарагому Сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу** жадаем велікоднай радасці на доўгія гады. Няхай уваскрослы Езус напаўняе Тваё сэрца спакоем і надзеяй, здароўе будзе моцным, і сілы не пакідаюць.

Мама і тата

**Паважанаму Ксяндзу Ігару Анісімаву** перасылаем сардэчныя пажаданні.
З Вялікім днём, Ксёндз Ігар, Вас віншуем –
З Уваскрасеннем Езуса Хрыста!
Няхай Гасподзь здароўе Вам шануе,
І будуць з Вамі мудрасць, дабрата...
Вяліку радасць ад Бога атрымалі –
Збаўленне Езус для нас усіх прынёс!
Жадаем, каб заўжды Вы адчувалі,
Што Бог жывы! І Езус Уваскрос!

Парафіяне і малітоўная група касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму** жадаем, каб міласэрны Бог адарыў здароўем на доўгія гады, каб Вы маглі працаваць на Божую хвалу і для перамянення людскіх сэрцаў. Складаем сторазовае "Аддзяч Божа!" за Божае слова, якое Вы прамаўляеце. Няхай Маці Божая чувае над кожнай Вашай хвілінай!

Касцёльны камітэт і вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Наваельні

**Паважаным Айцу Вальдэмару Слоту, Ксяндзу Леону Лішыку і Сястры Мір'ям** жадаем моцнага здароўя і шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай Усемагутны ўзнагародзіць Вас за ўсе старанні, якія прыкладваеце, каб наблізіць нас да Бога.

Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Вялікай Бераставіцы

**Паважаным Сёстрам Агнешцы і Ганне, Сястры Зоф'і Смятанцы, Кансэкраваным Удовам Сабіне і Зоф'і** жадаем, каб кожны дзень Вашага жыцця быў напоўнены Божым благаслаўленнем, здароўем, радасцю і спакоем, а дабрыня і зычлівасць, якія Вы дорыце людзям, заўсёды да Вас вярталіся. Надалей заставайцеся для нас прыкладам веры і набожнасці.

Вернікі з Гіравічаў

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку** жадаем, каб Пан Езус дапамагаў Вам быць добрым святаром, Святы Дух вёў па Божых сцежках, а Марыя па-мацярынску апекавалася.
З нагоды дня нараджэння і імянін жадаем таксама доўгіх гадоў жыцця, Божага благаслаўлення, аптымізму і добразычлівых людзей побач.

Парафіяне з Поразава

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавецкаму** жадаем, каб Ваша жыццё было шчаслівым і благаслаўлёным. Няхай уваскрослы Хрыстос, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, вядзе Вас па прыхожым, хоць, разам з тым, цяжкім святарскім шляху. Няхай Маці Божая заўсёды Вамі апекуецца, а Святы Дух асвячае кожны Ваш дзень.

Парафіяне з Іўя

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Аляксандру Шэмету, Яну Кузюку, Артуру Малафею і Міхалу Ластоўскаму** жадаем, каб уваскрослы Езус адарыў Вас моцным здароўем, цярплівасцю, стойкасцю, душэўным супакоем і ўсімі патрэбнымі ласкамі на святарскім шляху. Няхай кожны дзень жыцця будзе асвечаны прамянямі Божай любові і міласэрнасці. Памятаем пра Вас у малітвах.

Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак

**Паважанаму Айцу Пробашчу Антонію Пажэцкаму** жадаем натхнення і вытрымкі ў святарскай паслузе, поспехаў у рэалізацыі планаў і задум, моцнага здароўя, зычлівых людзей побач і заўсёды заставацца верным Хрысту. Няхай Божая міласэрнасць асвячае Ваш шлях.

Парафіяне касцёла св. Францішка з Асізі ў Свіслачы

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Бяганскаму** жадаем, каб Ваша святарства расцвітала, нягледзячы на цяжкія абставіны. Прыняцце крыжа з любоўю нараджае цудоўны плён. Няхай Ваша сэрца перапаўняе Божая любоў і давер, што Вы ў Яго руцэ, вера, што Ваша святарства мае сэнс, надзея, што пасля смерці заўсёды ёсць уваскрасенне.

Парафіяне з Тракеляў

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Безляповічу, Андрэю Пышынскаму і Валерыю Спірыдону** жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень і дароў Святога Духа. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас добрым здароўем, сілай і цярплівасцю, а Панна Марыя вядзе да святасці і атуляе любоўю і апекай.

Вернікі капліцы Вердамічы

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку** жадаем, каб Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх далонях, благаслаўляў кожны Ваш дзень, Святы Дух удзяляў свае шчодрыя дары, а Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекавалася.
З нагоды дня нараджэння і імянін жадаем таксама добрага здароўя на доўгія гады і сіл у выкананні Божай волі.

Вернікі капліц Верабейкі і Вердамічы

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну** жадаем моцнага здароўя, радасных дзён жыцця і душэўнага супакою. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас ласкай і благаслаўленнем, а Маці Божая штодзённа апекуецца і заўсёды будзе з Вамі.

Парафіяне касцёла Звеставання НПМ у Міжэрычах

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу** жадаем шмат радасці, здароўя, цярплівасці, плёну ў душпастырскай працы і добразычлівых людзей на святарскім шляху.
З нагоды імянін жадаем таксама, каб Ваша сэрца было напоўнена супакоем, а на твары заўсёды ззяла ўсмешка. Няхай Анёл-ахоўнік чувае над Вамі, а Марыя ахінае сваёй апекай.

Касцёльны камітэт, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і вернікі парафіі Унебаўзяцця НПМ у Новым Двары

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Павайбу** жадаем, каб Езус Хрыстус благаслаўляў Твае планы, Маці Божая натхняла сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагаў годна выконваць святарскую паслугу.
З нагоды імянін жадаем таксама, каб Анёл-ахоўнік і святы заступнік чувалі над Табой і дапамагалі шчасліва пражыць кожны дзень.

Родныя

**Паважанаму Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку** жадаем шчодрых ласкаў і благаслаўлення ад уваскрослага Езуса Хрыста на кожны дзень жыцця.
З нагоды дня нараджэння жадаем таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою, нястомнага натхнення і радасці.

Парафіяне з капліцы Божай міласэрнасці ў Свіслачы

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Працяг віншаванняў у наступным нумары

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня",** 224013 Брэст, прасп. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.